На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...
**Якуб КОЛАС**

№ 32 (4284)

20 красавіка 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

*Дзякуй за тое, што Вы прачыталі гэты нумар. Адгукніцеся, калі ў Вас ёсць заўвагі, меркаванні, прапановы.*
Тэл. (8 017) 328 68 71

АДКРЫТАЕ ПЫТАННЕ

## «Правесці канцэрт-рэквіем 26 красавіка немагчыма...»

– Заяўка на правядзенне "Чарнобыльскага Шляху-2018" пададзена загаддзя, але адказу з Мінгарвыканкама да гэтага часу няма, – паведаміў "Народнай Волі" сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі "Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя" **Віталь РЫМАШЭЎСКІ**.

**– Мяркуеце, што шэсце могуць не дазволіць?**

– Не выключана. Увогуле, як мне падаецца, улады пабаяцца такой масавасці, як на акцыі падчас Дня Волі. Дарэчы, тады, калі б не некаторыя недарэчныя спрэчкі паміж апазіцыянерамі, то людзей было б у разы больш. А "Чарнобыльскі Шлях" будзе больш палітызаваны, значыць, на гэтае мерапрыемства чыноўнікі глядзяць з пэўнай перасцярогай.

**– Як вам ініцыятыва былога палітвязня Алеся Кіркевіча правесці акцыю ў фармаце канцэрта-рэквіема?**

– Аргкамітэт разглядаў розныя ініцыятывы, і, на мой погляд, была слушная прапанова, каб гэтае мерапрыемства стала форумам па абмеркаванні не толькі чарнобыльскай трагедыі, але і ўсіх экалагічных праблем. Планавалі сабраць людзей з рэгіёнаў, прадугледжваліся розныя выступленні, у тым ліку можна было запрасіць і музыкантаў.

Але ўся справа ў тым, што мы да гэтага часу не маем адказу з Мінгарвыканкама, а значыць, немагчыма арганізаваць мерапрыемства кшталту таго, што было 25 сакавіка. Проста не паспеем гэта зрабіць. Усё-такі на такую арганізацыю патрэбны час, але адказ гарадскія ўлады могуць даць акурат за пяць дзён да правядзення акцыі.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

БЛАГОТВОРИТЕЛЬНОСТЬ

## По зову сердца – всем миром!

*Звезды эстрады делятся своими впечатлениями и эмоциями от благотворительного концерта в Бобруйске, инициатором которого стал популярный эстрадный певец, уроженец Бобруйска Руслан Алехно. Вырученные от мероприятия деньги пойдут на реконструкцию Бобруйской детской больницы.*

*«Здание, которое я увидел, действительно требует немалых вложений. Проект «По зову сердца – всем миром» может помочь многим детям моего любимого города»*, – заявил Руслан Алехно в феврале, посещая Бобруйскую детскую больницу. Концерт «По зову сердца – всем миром» состоялся 18 апреля в «Бобруйск-Арене».

Вчера бывшая жена Руслана Алехно актриса **Ирина Медведева** на своей страничке в социальных сетях написала:

*«В родном городе Бобруйске, в котором я родилась и где прошло мое детство, состоялся грандиозный благотворительный концерт «По зову сердца – всем миром».*

*Меня тронуло многое.*

*В Ледовом дворце, в котором проходил концерт, не было ни одного свободного места»...*

*«Спасибо Руслану Алехно за доброе дело, за инициативу!»*, – такое сообщение оставил **Евгений Кунгуров**.

*«Спасибо, родная моя Беларусь, моя малая Родина, за такой теплый прием!* – поделилась своими эмоциями **Юлия Михальчик**. – *Руслан Алехно, спасибо огромное за приглашение принять участие в благом деле!»*

Белорусские артисты – **Ирина Дорофеева, Анатолий Ярмоленко, Александр Солодуха, Анастасия Тиханович** – в социальных сетях свое участие в благотворительном концерте оставили без комментариев. Дмитрий Колдун ограничился фотографией из-за кулис.

Стоит отметить, что сбор средств на реконструкцию Бобруйской детской больницы, которая обслуживает маленьких пациентов из пяти районов Могилевской области, был объявлен еще в прошлом году. В конце сентября на центральной городской площади прошел большой концерт «По зову сердца» с участием звезд белорусской эстрады. Первоначально им планировали завершить благотворительный марафон. Однако на тот момент удалось собрать только около 180 тысяч рублей, и марафон решили продолжить. Благотворительный счет закрыт не был. Тогда же, в сентябре, об инициативе организовать благотворительный концерт с участием российских и белорусских звезд объявил Руслан Алехно.

*«Каждый из артистов откликнулся, не задавая лишних вопросов, все готовы прибыть и поддержать марафон»*, – рассказал Руслан Алехно. Он очень надеялся, что 18 апреля получится собрать немалую сумму на реконструкцию больницы, обещал *«задействовать ресурсы из других стран»*. К слову, только билетов было реализовано около 5 тысяч. Стоили они от 25 до 50 рублей.

***«Благодаря акции собрано около 115 тысяч рублей»***, – сообщили в отделе идеологической работы, культуры и по делам молодежи Бобруйского райисполкома.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

КІШЫНЁЎ–МІНСК

## Сейбіты...







Аляксандр Лукашэнка і Ігар Дадон – прэзідэнты Беларусі і Малдовы – засеялі поле пад Кішынёвам кукурузай, – такая інфармацыя з'явілася ўчора на белтаўскай стужцы. Гэта толькі адзін з фрагментаў афіцыйнага візіту А.Р.Лукашэнкі ў Малдову. Шэраг іншых мерапрыемстваў дае падставу сцвярджаць, што Беларусь і Малдова ўсё ж выведуць гадавы гандлёвы абарот на ўзровень 400 мільёнаў долараў.

АВАЛЬНАЯ ЗАЛА

## Алену Анісім не падтрымалі

Учора Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі не падтрымала прапанову **Алены Анісім** па змене рэгламенту. Дэпутат хацела, каб была ўведзена норма аб унясенні законапраектаў адначасова на беларускай і рускай мовах, замест толькі беларускай ці рускай мовы.

Анісім – старшыня ГА "Таварыства беларускай мовы". Яна лічыць, што адсутнасць усіх законаў на беларускай мове – прамое парушэнне Канстытуцыі.

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

## Ау, дроны!

Раньше у нас исчезали люди. Теперь исчезают так называемые дроны.

На днях министр внутренних дел Игорь Шуневич сообщил в кулуарах Палаты представителей, что не знает, куда исчезли дроны, выпущенные полетать над Оперным театром во время празднования 100-летия Белорусской Народной Республики. Для тех, кто не в курсе: дрон – это такая беспилотная машинка, управляемая с земли и используемая для видеосъемки сверху. Дроны были, и было их много, ибо использовали их и журналисты, желавшие обеспечить эффектную картинку потребителям своей информации, и частные лица, увлекающиеся техникой. Так вот – все они (не люди, а дроны) неожиданно куда-то исчезли. Были – и исчезли.

За землю у нас отвечает власть, за небо вроде бы тоже она. Поскольку за порядок на земле в тот день несли ответственность заявители акции и органы внутренних дел, то, надо полагать, за порядок в воздухе (не совсем в небе, но на высоте полета дронов) тоже кто-то должен отвечать. Наверное, те же лица. Поэтому будем считать, что вопрос был адресован правильно.

К чести министра Шуневича стоит отметить: Игорь Анатольевич не ограничился констатацией факта незнания, но заявил, что подведомственные ему структуры разбираются с возникшей проблемой исчезновения дронов. И здесь у меня возник вопрос.

«Разбираются» – в данном случае это как? Ведутся следственные действия? Каким образом? Кто-то контролировал вообще процесс запуска всей этой летающей техники? Если контролировал – хотя бы для того, чтобы нам на голову не свалилась какая-нибудь неожиданность, ибо дроны не голуби и могут при желании владельца «нагадить» в особо крупных размерах, – так вот если контролировал, то кто и как? Я человек, в технических вопросах не разбирающийся, но если эта штука управляется при помощи радиосигнала с земли, то кто в состоянии перехватить ее? Если это сделало государственное ведомство, то вернет ли оно дроны законным владельцам? А если не государственное, то будет ли возбуждено дело о хищении – с соответствующей квалификацией, согласно Уголовному кодексу?

Вопросы совершенно закономерные. Органы внутренних дел должны стоять не только на страже государственных интересов (так, как их понимает само государство, не всегда вменяемое), но и на страже интересов, прав, свобод и собственности каждого гражданина в отдельности. Исходя из этого, хищение частного дрона во время легально разрешенного мероприятия должно стать приоритетом для расследования МВД – да еще и хищение нескольких дронов. Сегодня украдут дрон у гражданина Зиссера Ю.А., завтра у гражданина Лукашенко Н.А. – безобразие какое-то получается!

Кстати, а был ли у нас хотя бы один случай, чтобы следственные органы или органы внутренних дел вернули вещи, похищенные кем-либо у представителей оппозиции, гражданского общества или журналистов? Я – не знаю...

ПРАБЛЕМА!

## І сніцца ім трава, трава ля дома...



З надыходам вясны штогод абвастраецца адна і тая праблема – падпалы травы. У гарадах і сельскай мясцовасці многія думаюць досыць прымітыўна: усё, што не сгніло пад снегам, трэба спаліць з надыходам сонечных дзён.

Некаторыя мяркуюць, што спаленне сухой расліннасці – карысць для прыроды, але эколагі, наадварот, б'юць у званы, бо гэта становіцца прычынай гібелі насякомых і звяроў, дэградацыі глебы і збяднення відавога складу расліннага свету. Да таго ж гарадская трава насычана солямі цяжкіх металаў, а ў сельскай мясцовасці могуць гарэць рэшткі ўгнаенняў і пестыцыдаў альбо небяспечнае смецце. Таму такі дым вельмі шкодны і для чалавека, і для прыроды.

Але што дым?! І да трагедыі рукой падаць. Вось толькі некалькі фактаў. У вёсцы Буйвічы жыхар Шчучына паліў смецце, а ў выніку атрымаў тэрмічныя апёкі твару ды рук і накіраванне ў хірургічнае аддзяленне. Жыхар Гродна паліў у траве і ледзь не згарэў. Мінчанка, якая вырашыла "прыбраць" лецішча агнём, абпаліла твар. А ў Ваўкавыскім раёне пенсіянера і наогул знайшлі мёртвым на месцы спалення травы.

МНС канстатуе: толькі за мінулыя выхадныя было атрымана 199 паведамленняў аб пажарах у экалагічных сістэмах. 16 красавіка адбылося 56 загаранняў у 21 раёне краіны, 17 красавіка – 38.

*"Мы пастаянна праводзім прафілактычную работу сярод насельніцтва, але, як бачым, даходзіць не да ўсіх*, – патлумачылі мне сітуацыю ў Міністэрстве па надзвычайных сітуацыях. – *Гэта тое самае, як з правіламі паводзін на вадзе. Здаецца, усе разумеюць, што можна, а што нельга, але жывуць па прынцыпе: "Гэта здарыцца з кім заўгодна, але не са мной". Вось і не могуць яны спаць спакойна, пакуль не спаляць тую траву, а разам з ёй нярэдка – і ўласнае жыллё"*.

Дарэчы, за выпальванне сухой расліннасці прадугледжана адміністрацыйная адказнасць – ад 10 да 40 базавых велічынь (ад 245 рублёў да 980 рублёў). А ў выпадку нанясення ўрону ў асабліва буйным памеры наступае крымінальная адказнасць.

**Алесь СІВЫ.**

НЕЗАЛЕЖНАЯ ЭКСПЕРТЫЗА

## Чаму хакеіст мінскага «Дынама» можа мець у месяц 25.000 долараў, а настаўнік мінскай школы – толькі 440?

У Беларусь прыйшоў капіталізм. На сённяшні дзень амаль 90% юрыдычных асоб (а гэта 127,3 тыс.) фундуюцца на прыватнаўласніцкай аснове. Доля дзяржаўнай уласнасці складае ўсяго 11,3% (14,1 тыс.). У прыватным сектары сёння працуюць 2607 тыс. чалавек, у дзяржаўным – 1745,3. Калі да гэтых лічбаў дадаць яшчэ 243,4 тыс. індывідуальных прадпрымальнікаў, то агульная колькасць людзей, што працуюць у прыватнаўласніцкім сектары, – 2850,4 тыс. чалавек.

І яшчэ на адну акалічнасць варта звярнуць увагу: у структуры валавога ўнутранага прадукту дамінуе не прамысловасць (26,8%), не сельскагаспадарчая вытворчасць (7,8%), а сфера паслуг (46,9%).

Сярэдні месячны заробак па выніках мінулага года склаў 815,2 руб. (418 долараў), прычым у сістэме адукацыі 557,7 руб. (286), у сістэме аховы здароўя і сацыяльных паслуг – 621,7 (318,8), у сельскай гаспадарцы – 587,1 (301). Старыя людзі ўвогуле пастаўлены на мяжу выжывання – сярэдняя пенсія 314,3 руб. (160 долараў).

Рухавіком капіталістычнай эканомікі, як вядома, з'яўляецца прыбытак. Ніхто не будзе працаваць сабе ў страту, як і ніхто не будзе працаваць задарма.

Чаму сёння хакеіст мінскага «Дынама» можа зарабляць у месяц 25.000 долараў, а настаўнік мінскай школы – 440? Гэта прыклад рынкавай эканомікі сённяшняга нашага менталітэту. Чым горшы настаўнік матэматыкі ад хакеіста? Не навучыўся лічыць, а дакладней – не ўмее прадаваць сваю рабочую сілу. Можна, канешне, пускаць бурбалкі і сцвярджаць: «Ну, вы ж разумееце...» Людзі даўно ўжо ўсё зразумелі. Засталося толькі навучыцца правільна ацэньваць і прадаваць уласную рабочую сілу. Уласнік заўсёды будзе імкнуцца мець танную рабочую сілу. Наколькі такі падыход будзе задавальняць чалавека наёмнай працы, залежыць толькі ад самога чалавека.

Узаемастасункі паміж уласнікам і наёмным работнікам рэгулююцца кантрактнай сістэмай. Моц людзей наёмнай працы ў іх згуртаванасці. Формы згуртаванасці розныя. Гістарычны вопыт падказаў найбольш эфектыўныя – прафсаюзы, грамадскія аб'яднанні. Галоўная функцыя прафсаюзаў – абарончая.

Для краін капіталу такія дзеянні прафсаюзаў – норма. У сродках масавай інфармацыі мы рэгулярна чытаем аб забастоўках, маршах, дэманстрацыях у Германіі, Францыі, Грэцыі, Італіі, Польшчы, Англіі, іншых краінах. Бастуюць дзяржслужачыя, настаўнікі, авіядыспетчары, бортправаднікі, фермеры, урачы, людзі другіх прафесій. Калі раптам хтосьці думае, што гэтыя людзі выжываюць на 300–400 еўра ў месяц, ён памыляецца: іх сярэдні заробак вагаецца ў межах некалькіх тысяч еўра. А чаму ж яны бастуюць? Праз забастоўкі ідзе рэгуляванне кошту рабочай сілы. У рынкавай эканоміцы іншага рэгулятара проста не існуе.

Вось некалькі прыкладаў. Восенню 2017 года па Францыі пракацілася хваля забастовак і пратэстных маршаў. Не працавалі школы, з перабоямі працаваў чыгуначны транспарт, была адменена трэць авіярэйсаў.

Удзел у страйку бралі ўсе дзевяць прафсаюзаў работнікаў дзяржсектара, якія прадстаўляюць інтарэсы 5,4 млн супрацоўнікаў. Два найбуйнейшыя прафсаюзы Францыі – Французская дэмакратычная канфедэрацыя працы (CFDT) і "Рабочая сіла" (FO) – падтрымалі правядзенне забастоўкі.

На пачатку 2016 года ў Францыі баставалі таксісты. Разам з таксістамі ў пратэстных акцыях бралі ўдзел авіядыспетчары, дзяржслужачыя, якіх не задавальняюць памеры заробкаў і магчымасць скарачэння рабочых месцаў.

Сёння Францыя зноў бастуе. Вось толькі што баставалі чыгуначнікі, энергетыкі, смеццепрыбіральшчыкі, работнікі нацыянальнага перавозчыка «Эйр Франс». Асноўнае патрабаванне – павышэнне заробку, захаванне сацыяльных ільгот.

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

ЁСЦЬ ВАКАНСІЯ!

## Заробак – 10 тысяч долараў

Авіякампанія "Белавія" шукае пілотаў, якія добра валодаюць англійскай мовай і маюць вопыт работы. Прычым на працу запрашаюць грамадзян не толькі Беларусі, але таксама Расіі і Казахстана.

Заробак прапануюць дастойны. Напрыклад, камандзіру паветранага судна–інструктару прапануюць заробак 20.000 рублёў, а пілоту-інжынеру – 11.500. Аб'ява пра пошук пілотаў размешчана на сайце Мінгарвыканкама ў банку вакансій.

**Даша ПАЎЛОЎСКАЯ.**

ПАЗІЦЫЯ

## Пад міжнародным наглядам...

*У Беларусь прыязджала місія Міжнароднай канфедэрацыі працы і Глабальнага саюза IndustriALL.*

Адбыліся сустрэчы з прадстаўнікамі МЗС і Міністэрства працы, дзе ўзгадвалася "справа прафсаюзаў".

*"Дзяржаўныя чыноўнікі спрабавалі давесці, што гэтая крымінальная справа – эканамічная, а не палітычная, але прадстаўнікі міжнародных прафсаюзаў сказалі ўладам: рабіце высновы*, – распавёў "Народнай Волі" старшыня прафсаюза РЭП **Генадзь Фядыніч**. – *Расследаванне працягнута да 1 мая, таму пабачым, ці будуць гэтыя высновы зроблены"*.

**Віктар ШПАК.**

НЕЗАЛЕЖНАЯ ЭКСПЕРТЫЗА

# Чаму хакеіст мінскага «Дынама» можа мець у месяц 25.000 долараў, а настаўнік мінскай школы – толькі 440?

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

Ці здольны беларускія прафсаюзы на актыўныя дзеянні па абароне інтарэсаў людзей працы? Мой адказ адмоўны. Нам патрэбны новыя прафсаюзы і новыя іх лідары.

Для Беларусі ёсць яшчэ адзін вельмі важны аспект, удасканальванне якога здольна самым сур'ёзным чынам паўплываць на вырашэнне існуючых у грамадстве сацыяльных узаемаадносін. Гэта дзяржаўны бюджэт і прынцыпы яго размеркавання.

Спачатку ўдакладнім напрамкі (рэсурсы) фарміравання бюджэту. Гэта:

1.падаткі (85,4%);
2.непадатковыя даходы (10,8%);
3.бязвыплатныя паступленні (3,8%).

Канцэптуальныя падыходы размеркавання бюджэту былі сфарміраваны ў мінулым стагоддзі, калі краіна жыла пры агульнадзяржаўнай уласнасці. У той час чалавек працы мог спадзявацца практычна толькі на дзяржаўную падтрымку (заробак, кватэра, сацыяльныя льготы, медыцынская дапамога, адукацыя, пенсія і г.д.).

Сёння сітуацыя змянілася кардынальным чынам. Цэнтр сацыяльнага цяжару ўсё больш змяшчаецца ад дзяржавы да асобы. Роля ўласнага заробку будзе толькі ўзрастаць. Чаму бастуюць французскія авіядыспетчары? Вы думаеце, яны мала зарабляюць? Усё пазнаецца ў параўнанні. І справа нават не ў колькасных паказчыках заробку (скажам, у Злучаных Штатах Амерыкі – гэта 7–8 тысяч долараў, у Беларусі – 450), колькі ў якасці жыцця і яго забеспячэнні.

Што перашкаджае сёння ўсталяваць еўрапейскі памер заробку беларускім настаўнікам, урачам, выкладчыкам вышэйшых навучальных устаноў, іншым катэгорыям людзей, якія атрымліваюць заробак з бюджэту?

Адказ беларускіх чыноўнікаў гучыць прыкладна так: НЯМА ГРОШАЙ. А ці так гэта? Пры існуючым падыходзе размеркавання бюджэту становішча і не зменіцца, бо чыноўнікі абараняюць свае інтарэсы: сёння на ўтрыманне дзяржапарату затрачваецца 10 млрд руб., альбо 50% дзяржбюджэту. Няўжо Японія такая «бедная», што абыходзіцца 9000 вышэйшых чыноўнікаў на 128 млн насельніцтва? Па ўзроўні эканамічнага развіцця Японія на працягу больш як 60 гадоў уваходзіць у першую тройку краін свету. Гэта краіна, дзе настаўнік зарабляе больш за любога кіраўніка муніцыпальнага ўзроўню. Ды і працягласць жыцця ў Японіі самая высокая ў свеце. Навошта Беларусі цягнуць на сваім гарбе такую вялікую армію чынавенства? Я прапаную скараціць адпаведны артыкул дзяржбюджэту ў два, а то і ў тры разы.

А колькі ў Беларусі вайскоўцаў, міліцыянераў, іншых спецыялістаў так званага сілавога блока? Лічу, што наспеў час скарачэння выдаткаў рэспубліканскага бюджэту на ўтрыманне прадстаўнікоў сілавога блока мінімум у два разы.

Наспеў час асобна абмеркаваць і пытанне аб пенсіянерах і памерах іх пенсій. Людзі адпрацавалі на карысць дзяржавы 35–40 гадоў, а дзяржава штомесяц аддзячвае ім падачкай у 250–350 руб. (120–170 долараў). У нашай краіне ёсць катэгорыі пенсіянераў, якія атрымліваюць у разы большую пенсію – 800–1400 руб. (400–700 долараў). Да гэтай катэгорыі пенсіянераў адносяцца былыя чыноўнікі, вайскоўцы, міліцыянеры і да іх прыраўнаваныя. Больш за тое, многія з пазначанай катэгорыі выходзяць на пенсійнае забеспячэнне ў 45 гадоў. А якая розніца для людзей сталага ўзросту, дзе і кім ён яны працавалі да выхаду на пенсію? Пенсіянер – ён і ў Афрыцы чалавек сталага ўзросту. Розніца ў ацэнцы якасці працы дасягалася падчас яе выканання.

Пры ўмове прыняцця дадзеных прапаноў вызваленыя сродкі (а гэта ні многа ні мала 6612,5 млн руб.) неабходна накіраваць у сацыяльную сферу (ахова здароўя, адукацыя, культура, спорт, жылёвае будаўніцтва, навакольнае асяроддзе), што дазволіць забяспечыць павелічэнне заробкаў у сацыяльнай сферы (настаўнікаў, бібліятэкараў, урачоў, медсясцёр, трэнераў, музейных работнікаў і г.д.) і пенсій у два-тры разы. Канешне, гэта не зробіць якасць жыцця беларусаў, як у Саудаўскай Аравіі, але хаця б наблізіць. Дарэчы, у Саудаўскай Аравіі кожны нованароджаны грамадзянін атрымлівае ад дзяржавы 70.000 долараў; адукацыя і медыцынскае абслугоўванне бясплатнае; кожная маладая сям'я забяспечваецца дзяржаўнай падтрымкай для набыцця кватэры ў памеры 64.000 долараў; для адкрыцця бізнесу дзяржава аказвае аднаразавую матэрыяльную дапамогу ў памеры 50.000 долараў. Грамадзяне гэтай краіны не плацяць за выкарыстаную ў жыллі электраэнергію і камунальныя паслугі. Сярэдні заробак медсястры складае 10.000 долараў. А самае галоўнае – у гэтай краіне разумеюць ролю і значэнне сістэмы адукацыі ў жыцці чалавека: на яе падтрымку і развіццё ідзе больш за чвэрць гадавога дзяржаўнага бюджэту (у Беларусі – 4,4%).

Вы хацелі б жыць у такой краіне? Я – так!

**Васіль РУСОВІЧ, дацэнт.**

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

*У мінулым нумары "Народная Воля" паведаміла, што хутка пачнуць судзіць Мікалая Неўмяржыцкага, дырэктара буйнога сельгаспрадпрыемства краіны «ЖодзінаАграПлемЭліта», якое падпарадкоўваецца Акадэміі навук Беларусі. У публікацыі са спасылкай на Следчы камітэт сцвярджалася, што Неўмяржыцкі вызвалены ад займанай пасады. Цікава, а хто і калі ўзначаліў прадпрыемства? Справа ў тым, што летась пасля затрымання Неўмяржыцкага гэтая пасада заставалася вакантнай. А яго, між іншым, як вы пісалі, затрымалі ў красавіку 2017 года. Больш за тое, і на пачатку гэтага года новага кіраўніка ў «ЖодзінаАграПлемЭліта» яшчэ не было.*

**З.Іванова.**

***г.Смалявічы.***

# «ЖодзінаАграПлемЭліта» ўзначаліў кандыдат навук

Сапраўды, як удалося высветліць, новы дырэктар у рэспубліканскага даччынага ўнітарнага прадпрыемства па племяннной справе «ЖодзінаАграПлемЭліта» з'явіўся толькі ў лютым гэтага года. На адказную пасаду быў прызначаны кандыдат сельскагаспадарчых навук **Вячаслаў Царук**. Аднак ад якіх-небудзь каментарыяў з нагоды сітуацыі на прадпрыемстве Вячаслаў Мікалаевіч катэгарычна адмаўляецца. «*Маё прызначэнне зацвярджалася праз Бюро Прэзідыума Акадэміі навук. Я чалавек дзяржаўны: сказалі – выконваю*», – як адрэзаў новы дырэктар і рэзка спыніў размову.

Трэба адзначыць, што ў Вячаслава Царука немалы вопыт кіраўнічай працы. Доўгі час ён узначальваў Беларускую занальную доследную станцыю па птушкагадоўлі ў Заслаўі Мінскага раёна, куды прыйшоў працаваць адразу пасля заканчэння Беларускага інстытута механізацыі сельскай гаспадаркі. Прадпрыемства Царук узначаліў у 33 гады. Затым працаваў на Мінскім мясакамбінаце, кіраваў гаспадаркай, якая яму належала, быў дырэктарам СПК Чэрвеньскага раёна, а апошнія два гады – кіраўніком ААТ «Камароўка» Брэсцкага раёна. Прычым апошняе сельгаспрадпрыемства, якое спецыялізуецца на вытворчасці мяса птушкі і жывёлагадоўлі, Царук узначаліў не ў лепшыя для ААТ гады з пункту гледжання прадуктыўнай дзейнасці. Страты «Камароўкі» не толькі не памяншаліся, але і раслі, часта мяняліся кіраўнікі. Сёння, кажуць на гэтым прадпрыемстве, сітуацыя некалькі палепшылася, і станоўчыя зрухі звязваюць менавіта з Вячаславам Царуком. «*Цалкам са стратамі мы, канешне, не справіліся, але яны зменшыліся,* – кажуць у эканамічным аддзеле ААТ «Камароўка». – *Запазычанасць прадпрыемства таксама скарацілася, напрыклад, перад «Белзарубежгандлем" Кіраўніцтва спраў прэзідэнта, якому «Камароўка» моцна завінавацілася. Заробкі ў нас таксама выраслі: сярэдняя зарплата па прадпрыемстве летась была 677 рублёў, а ў студзені-лютым гэтага года вырасла да 717 рублёў. Чаму нашага дырэктара перавялі ў Жодзіна, не ведаем. Казалі, што па сямейных абставінах. А як яно на самай справе – хіба нам патлумачаць?..*»

Мяркуючы па ўсім, справы ў «ЖодзінаАграПлемЭліта» таксама ідуць не лепшым чынам. На пачатку гэтага года начальнік сектара па працы з праблемнай запазычанасцю філіяла ААТ «Банк развіцця» **Андрэй Палазкоў** звяртаўся падчас "Прамой лініі" ў "Сельской газете" да дэпутата Палаты прадстаўнікоў, старшыні пастаяннай камісіі па аграрнай палітыцы **Яўгена Адаменкі** з нагоды вялікай запазычанасці «ЖодзінаАграПлемЭліта»: "*Наш банк – крэдытор даччынага прадпрыемства НПЦ НАН Беларусі па жывёлагадоўлі «ЖодзінаАграПлемЭліта». У іх велізарны пратэрмінаваны доўг у некалькі мільёнаў рублёў. Але Акадэмія ніякіх мер не прымае*". Ці разлічылася "ЖодзінаАграПлемЭліта» з Банкам развіцця хаця б часткова, на прадпрыемстве не каментуюць. У Банку таксама інфармацыю СМІ не прадастаўляюць. Галоўны спецыяліст сектара па працы з праблемнай запазычанасцю **Аляксей Макарэвіч** сцвярджае, што гэта банкаўская таямніца, яе раскрываць мае права толькі начальнік сектара Андрэй Палазкоў, але ён зараз у адпачынку.

Што тычыцца сярэдняй зарплаты на «ЖодзінаАграПлемЭліта», то яна значна большая за сярэднюю ў аграрным сектары краіны. Традыцыйна ў сельскай гаспадарцы зарабляюць няшмат, у лютым, паводле дадзеных Нацстата, заробкі ў аграрыяў складалі ў сярэднім 583,8 рубля. У той жа час работнікі «ЖодзінаАграПлемЭліта» атрымалі ў лютым у сярэднім 706,3 рубля, а ў сакавіку – 728,1 рубля.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

ПАЛІТКУХНЯ

# Правацэнтрыстаў беларускай апазіцыі ўжо сёння хвалююць будучыя прэзідэнцкія выбары

Правацэнтрысцкая кааліцыя беларускай апазіцыі, у якую ўваходзяць Аб'яднаная грамадзянская партыя, рух "За Свабоду" і прадстаўнікі аргкамітэта па стварэнні партыі "Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя", маюць намер вылучыць на бліжэйшыя прэзідэнцкія выбары адзінага кандыдата.

Пра гэта ў размове з "Народнай Воляй" распавёў адзін з ініцыятараў такога кроку – сустаршыня аргкамітэта па стварэнні БХД **Віталь Рымашэўскі.**

– Адразу хачу падкрэсліць: на сённяшні дзень ёсць прынцыповае рашэнне, прынятае суб'ектамі, якія ўваходзяць у правацэнтрысцкую кааліцыю, на будучых прэзідэнцкіх выбарах апазіцыі патрэбны адзіны кандыдат. Кампанію па яго вылучэнні і будуць праводзіць правацэнтрысты. Дэталяў самой працэдуры вылучэння адзінага пакуль няма. Патлумачу чаму.

Зараз мы вядзём перамовы з палітычнымі партыямі і структурамі, якія не ўваходзяць у нашу кааліцыю. Мы хочам, каб у выбары адзінага кандыдата ўдзельнічалі ўсе зацікаўленыя сілы, каб потым пазбегнуць абвінавачванняў у тым, што мы нешта вырашылі аднаасобна.

Мяркую, што сама працэдура вылучэння адзінага кандыдата будзе зацверджана не раней за восень бягучага года.

**– Найноўшая палітычная гісторыя Беларусі паказвае, што часцяком спробы апазіцыі вылучыць адзінага кандыдата разбіваюцца аб амбіцыі апазіцыйных лідараў. У выніку на выбары ідзе некалькі чалавек, якія прадстаўляюць апазіцыю. Не баіцеся, што нешта падобнае будзе і гэтым разам?**

– Асабіста я перакананы: беларускай апазіцыі патрэбны адзіны кандыдат. Моцны і пазнавальны. Вялікая колькасць кандыдатаў на выбарах – гэта добра, але ў дэмакратычных краінах. У нас жа, на вялікі жаль, сітуацыя далёкая ад дэмакратычнай. Зразумела, што на бліжэйшых прэзідэнцкіх выбарах кандыдатаў будзе шмат. Нейкія з іх будуць "фэйкавыя", нейкія – падасланы ўладай. Але, калі адказваць на ваша пытанне: я спадзяюся, што дэмакратам удасца дамовіцца пра тое, каб правесці тую палітычную кампанію разам. Адзіным дэмакратычным фронтам.

**– Ці ёсць сэнс удзельнічаць у выбарах, калі ў краіне дагэтуль не зменена выбарчае заканадаўства? Калі няма празрыстага падліку галасоў, калі няма роўнага прадстаўніцтва ўсіх кандыдатаў. Можа, варта было б пачынаць з гэтага, а толькі потым гаварыць пра вылучэнне адзінага кандыдата?**

– Вылучэнне адзінага кандыдата і змены ў выбарчае заканадаўства краіны – рэчы паралельныя. Што тычыцца змен у выбарчае закандаўства, то яны даўно распрацаваны і падрыхтаваны. Актыўны ўдзел у гэтай працы бралі апазіцыйныя партыі. Зараз, наколькі я ведаю, дэпутат Палаты прадстаўнікоў Ганна Канапацкая ўзгадняе гэты дакумент з разнастайнымі міністэрствамі і ведамствамі. Толькі пасля такога ўзгаднення пытанне можа быць вынесена на разгляд дэпутатаў. Калі ўсё пойдзе па плане, то пытанне аб зменах у выбарчае заканадаўства можа быць уключана ў парадак дня на бліжэйшай сесіі.

**– І апошняе пытанне, як кажуць, у лоб. Калі змены ў выбарчае заканадаўства не будуць падтрыманы большасцю дэпутатаў, то ўдзел адзінага кандыдата ў прэзідэнцкіх выбарах па сутнасці ператворыцца ў фармальнасць. Вам удзел патрэбны дзеля "птушачкі" ці ёсць рэальная задача памяняць уладу ў Беларусі?**

– Справа палітыкаў прапаноўваць механізмы і рэалізоўваць іх. Мы гатовы працаваць на вылучэнне адзінага кандыдата і праводзіць палітычную кампанію. У ідэале задача на бліжэйшых прэзідэнцкіх выбарах – замяніць Аляксандра Лукашэнку на дэмакратычнага кандыдата. Але высілкаў палітыкаў для гэтага мала. Перамога апазіцыі на выбарах будзе магчыма толькі тады, калі будзе падтрымана большасцю беларусаў.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

ПАМЯТЬ

# ...Есть только миг...

*На днях свой 80-летний юбилей мог бы отметить экс-министр сельского хозяйства **Василий Севостьянович Леонов.** Он ушел из жизни чуть больше трех лет назад.*

*Друзья и близкие возложили цветы на могилу Леонова – он похоронен на кладбище в деревне Строчицы.*

"Говорят, что величина человека измеряется размером пустоты, которая образуется после его ухода, – *говорит профсоюзный лидер, бывший чиновник и друг Леонова* ***Александр Ярошук***. – Леонов был такой глыбой, таким исполином, таким титаном, что нынешние правители выглядят на его фоне не более чем пигмеями. И чем дальше, тем более рельефно виден этот разительный контраст между человеком с масштабным стратегическим мышлением и выдающимися способностями взять ответственность на себя, консолидировать и сплотить нацию в переломные моменты ее истории и нынешними политическими и управленческими недорослями, которых даже сравнивать с Леоновым неловко.

«*Есть только миг*», – гласит эпитафия на надгробии Леонова. Миг удивительно красивой, яркой, насыщенной жизни, перешедший в вечность...»

Василий Леонов фактически за месяц сгорел от рака легких.

**Марина ВИШНЕВСКАЯ.**




МЫСЛИ МУДРЕЦОВ



*Сила правительства держится на невежестве народа, и оно знает это и потому всегда будет бороться против просвещения. Пора нам это понять.*

**Л.Н.ТОЛСТОЙ.**

ГДЕ ЭТО ВИДАНО...

## Ольга МЫЧКО, депутат Палаты представителей, директор столичного хосписа с 2005-го по 2016 год:

# «Поверить в то, что медсестры кому-то навредили, не ввели лекарство, не могу»

В столице случилось ЧП. Задержаны три медсестры минской больницы паллиативного ухода «Хоспис». Их подозревают в том, что они воровали у безнадежно больных пациентов наркотики. В милицейской сводке указано: «*В ходе проведения осмотров жилых помещений у каждой из них в квартире были обнаружены опасные психотропные вещества (диазепам, трамадол, феназепам, клоназепам, морфин), применяющиеся в медицине для снятия болевого синдрома у тяжело больных пациентов, а также при психических заболеваниях. Общее количество изъятых психотропных веществ составило порядка 120 таблеток и 35 ампул, также были изъяты шприцы, наполненные запрещенными в свободной продаже вышеуказанными препаратами*».

Сотрудницы хосписа пояснили правоохранителям, что сами психотропные вещества не употребляли, а продавали их. В отношении медсестер возбуждены уголовные дела по ч.1 ст.328 УК «Незаконный оборот наркотических средств, психотропных веществ, их прекурсоров и аналогов». Им грозит наказание в виде ограничения свободы на срок до пяти лет или лишение свободы на срок от двух до пяти лет. «*В ходе дальнейшего разбирательства квалификация преступления может быть изменена на более тяжкий состав*», – сообщают правоохранители.

Как же могло случиться, что медсестры воровали самое необходимое у самых слабых? Что толкнуло их на этот бесчеловечный поступок? Одна из задержанных медсестер проработала в хосписе 8 лет.

Ольга Мычко – депутат Палаты представителей, главный врач хосписа со дня его открытия в 2005-м и до 2016 года, говорит, что не надо делать поспешных выводов. Стоит дождаться результатов расследования.

– *Ситуация, конечно же, из ряда вон,* – признает Ольга Викторовна. – *Для меня она как гром среди ясного неба. Мне казалось, что у хосписа безупречная репутация, что все, что удалось наработать за 13 лет, – это незыблемая константа, которую изменить невозможно. А тут такое! Двух медсестер я знаю хорошо, принимала участие в их личной жизни. Если честно, я даже отказываюсь верить в то, что случилось. И считаю, что сегодня комментировать то, что произошло, неправильно. Для этого есть компетентные органы, которые разберутся в ситуации. Следователи должны установить, каковы причины того, что случилось, как все было. Поверить в то, что медсестры кому-то навредили, не ввели лекарство, отказываюсь категорически. Этого быть не может. Для одной из медсестер хоспис был как семья... Откуда появлялись излишки медикаментов? Возможно, это были возвраты от умерших пациентов. Должна быть дана оценка и проведены следственные действия.*

*Надо понимать, что работа в хосписе невероятно трудная. Именно поэтому в Европе такие учреждения работают по четким схемам, там имеет место ротация кадров, особенно тех, кто слаб и не может вынести такую ответственность. Конечно, если бы у нас была возможность менять кадры, переводить работников хосписа через какое-то время на более спокойную в эмоциональном плане работу... Но, к сожалению, очередь из медсестер в хоспис не стоит. Идеальных бойцов найти трудно.*

*Возможно, руководство должно более внимательно следить за кадрами. Но, согласитесь, следить за всеми, не доверять – это тоже неправильно. Это уже не команда...*

Ольга Мычко опасается, что данный инцидент может спровоцировать в обществе негативное отношение к паллиативной помощи, которая только начинает развиваться и устанавливаться в стране.

– *Подобное могло случиться в любой сфере,* – убеждена депутат. – *Виновные должны быть наказаны, но нельзя марать всю систему.*

**Мария ЭЙСМОНТ.**

Народная Воля http://www.nv-online.info
20 КРАСАВІКА 2018 г.

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

## Илья КОЛОСОВ:

# «Мне здесь легко дышится…»

*Бывший ведущий телеканала ОНТ москвич Илья Колосов рассказал «Народной Воле», чем занимается после ухода с экрана и почему решил остаться в Беларуси.*



**– Илья, многие до сих пор недоумевают, почему вы ушли с ОНТ. Сообщалось, что новое руководство телеканала не продлило с вами контракт. А как вам объяснили, почему в ваших услугах больше не нуждаются? За что вас уволили?**

– Согласитесь, увольнение и непродление контракта – это все-таки разные вещи. Хотя результат один. Тем не менее между мной и руководителем канала было заключено джентльменское соглашение, по которому я не могу комментировать это решение.

**– У вас уже есть новая работа?**

– Я лежу на берегу, греюсь на солнышке и смотрю на то, как мои коллеги барахтаются в бурных информационных потоках. Наслаждаюсь, так сказать, моментом. Надо получать удовольствие от каждого дня, не правда ли?..

**– В Минске вы арендуете жилье или купили свое? Спрашиваю потому, что, например, у того же Сергея Доренко в Минске была квартира в Троицком предместье. Одно время он считал, что это выгодное вложение средств…**

– Я живу в Минске, и о возвращении в Москву даже думать не хочется! Обстоятельства требуют от меня бывать там время от времени, но минская атмосфера нравится мне гораздо больше. Насчет вложения средств ничего сказать не могу – талантов коммерсанта за мной до сих пор не наблюдалось.

**– У вас была довольно успешная карьера в Москве: шеф Европейского бюро в компании «RTVi», ведущий телеканала «ТВ Центр». Почему вы согласились подписать контракт с телеканалом ОНТ? Хотелось еще более высоких гонораров, собственную авторскую программу, сменить место жительства?**

– Беларусь стала для меня и моей семьи третьей страной за последние четыре года. Поэтому о тяге к новой перемене мест говорить не приходилось.

Авторские программы я веду столько, сколько работаю ведущим, – то есть примерно с 1992 года. Значит, и это не является причиной переезда. И, поверьте, гонорары в Москве и в Берлине у меня были значительно выше. Просто так сложились обстоятельства. Я должен был оказаться здесь.

Мне здесь легко дышится.

**– А расскажите, какие условия вам предложили в Минске: квартира, зарплата, какие-то другие бонусы? И были ли у вас сомнения – ехать в Минск или нет?**

– Некорректный вопрос. Воздержусь от ответа.

**– Тогда скажите, как вас восприняла местная телевизионная тусовка? Как российскую приглашенную звезду или как профессионала высокого класса?**

– Об этом лучше спросить у коллег. Поговорите с шеф-редактором «Контуров» Олей Гончарик. С корреспондентами ОНТ, многие из которых, кстати, способны дать фору российским коллегам. С режиссерами Алёной Братенковой и Андреем Чураковым. Или с Сашей Серебренниковым, с которым мы знаем друг друга уже, наверное, лет 15…

**– Не секрет, что ко многим белорусским телеведущим у некоторых негативное отношение: мол, пропагандисты, говорящие головы, отбеливатели режима. Вы все это на себе прочувствовали?**

– Если б я был таким, то, вероятно, прочувствовал бы.

У меня есть несколько знакомых журналистов, которые, так скажем, не являются сторонниками действующих белорусских властей. Но и они после моего переезда в Минск не изменили доброго ко мне отношения. Поймите, все, что я делал в «Контурах», не было компромиссом. Я не шел против совести. За неполные три года я имел возможность пообщаться почти со всеми членами Совета министров. Это трудяги, каких поискать! И, да, мне нравится белорусский президент. У меня есть возможность сравнивать, и для меня очевидно, что белорусам очень повезло…

**– Некоторые белорусские ведущие, работавшие в Москве, считают, что наши телеканалы и российские – как небо и земля…**

– Нравится это кому-то или нет, но качество телевизионного продукта прямо пропорционально вложенным средствам. На российских телеканалах просто больше денег. Однако я не считаю, что мы с коллегами делали программу, которая была менее профессиональна, чем аналогичные российские.

**– А не возникала мысль пригласить на эфир в «Контуры» кого-то из представителей белорусской оппозиции? Вам не кажется, что на белорусских телеканалах вообще остро не хватает противоположного мнения?**

– Лично мне в эфире ОНТ не раз приходилось общаться с представителями оппозиции. Боюсь, не припомню всех, но навскидку – Татьяна Короткевич, Андрей Дмитриев, Ярослав Романчук, Елена Анисим… Без столкновения идей трудно сделать интересную программу.

**– Были случаи, когда кто-то из героев не хотел принимать участие в съемках: мол, фу, это же Белорусское телевидение!..**

– Не припомню такого.

**– Много ли вам поступило предложений о работе после того, как от ваших услуг отказалось ОНТ? Может, на другой канал звали?**

– Предложений, которые соответствовали бы моей квалификации и при этом были бы мне интересны, много быть просто не может. Тем более на не столь объемном медийном рынке Беларуси. А в Москву возвращаться мне не хочется.

**– Ваша жена Елена Данникова раньше тоже работала на телевидении. Чем она занимается в Минске?**

– Елена – высокий профессионал. Успешно работала в Москве и востребована в Минске. Она ведет программу «ЧП.BY» на «НТВ-Беларусь».

**– Правда, что вы вместе с Александром Лукашенко в хоккей играете?**

– Нет, не правда. Мой уровень игры не позволяет мне претендовать на место в президентской команде. Но я тренируюсь. Вот вы спрашиваете, почему я приехал в Беларусь. Да потому, что люди здесь хорошие. Меня к хоккею привлекли. До этого на коньках только в дворовом детстве стоял. А тут – два раза в неделю и с огромным удовольствием!

**– Илья, у вас трое сыновей. Старшие дети приезжают к вам в Минск? Вы поддерживаете с ними отношения?**

– Разумеется. Они приезжают в Минск, как только учеба позволяет. Два-три раза в год. Им здесь тоже очень нравится. Минувшим летом, например, чудесно съездили на озера в Витебскую область. Незабываемо…

**– Не так давно в соцсети вы разместили трогательный снимок с младшим сыном, который подписали так: *«Вид на солнце с берега Немана»*. Путешествуете по Беларуси?**

– Стараюсь использовать любую возможность. Только недавно вернулись из двухдневного тура в Гродно. А до этого объездили основные достопримечательности Минской области.

**– Знаю, что вы неплохо владеете немецким. А белорусский выучили? Может, младшего сына в белорусскоязычный детсад отдали?**

– Немецким я владею более чем скромно. Без практики язык забывается. А малыш одно время даже напевал нам какую-то белорусскую песенку. Было очень трогательно. Ну, и якает уже, как настоящий белорус: говорит, например, «тЯнуть», «девЯтнадцать». Московский говор такие звуки почти проглатывает, а тут их произносят. Я слушаю его, и мне от улыбки трудно удержаться…

**Марина КОКТЫШ.**



Илья Колосов с сыновьями.

### КТО ТАКОЙ?

*Илья Колосов – журналист, теле- и радиоведущий, автор нескольких документальных фильмов. Родился 5 сентября 1970 года в Подмосковье. С 1988-го по 1990 год служил в Военно-воздушных силах СССР. В 1995 году окончил Санкт–Петербургский государственный институт кино и телевидения. В средствах массовой информации с 1987 года. Начинал карьеру на радио, с 2000 года перешел на телеканал «ТВ Центр». В 2014 году возглавил Европейское бюро телекомпании RTVi.*

*Женат вторым браком.*

100 РАДКОЎ

## Міхася СКОБЛЫ



# Ад каго ахоўваецца магіла Паўлюка Багрыма?

На Радаўніцу па дарозе на малую радзіму я заехаў у Крошын, што непадалёк ад Баранавічаў. Адтуль у "Народную Волю" апошнім часам прыходзілі супярэчлівыя лісты. Хтосьці пісаў пра вандалізм на могілках, дзе пахаваны знакаміты паэт-самародак XIX стагоддзя Паўлюк Багрым, хтосьці даводзіў, што ўсё на тых могілках у поўным парадку.

Багрым лічыцца аўтарам адзінага верша "Зайграй, зайграй, хлопча ма́лы". Праўда, ён і кавальскім молатам працаваў віртуозна, як пяром. Выкаваных ім з ювелірным майстэрствам жаўрукоў на вялікім падсвечніку-жырандолі можна з поўным правам назваць вершам у метале.

"Мог бы славай грымець сярод годных паэтаў Еўропы", – пісаў пра Багрыма Уладзімір Караткевіч. Не атрымалася, не сышліся зоркі, не выпаў лёс. Замест еўрапейскай славы грымеў молатам па кавадле ў мястэчковай кузні. Пасля крошынскага сялянскага бунту ў 1828 годзе з Паўлюка Багрыма была ўзята падпіска аб тым, што ён "никогда и ни перед кем не смеет произносить или переписывать стихи". На вусны паэту была накладзена пячатка маўчання. Заставалася прамаўляць моўчкі – молатам у кузні.

На могілках, адразу за касцёлам, я лёгка адшукаў Багрымава надмагілле. Ведаю, многіх здзіўляе прымацаваная да помніка адмысловая шыльдачка – "Ахоўваецца дзяржавай". Ад каго неабходна ахоўваць магілу паэта-самародка? Ад якіх прышлых варвараў, ад якіх мясцовых вандалаў?

Аказваецца – ад… тутэйшага краязнаўца. Жыве ў Баранавічах маёр-адстаўнік Міхась Маліноўскі, які паставіў сабе за мэту даказаць, што паэта Паўлюка Багрыма не існавала ў прыродзе. І ён гэта даказвае, як умее. Ваяўніча (27 гадоў праслужыў у савецкім войску), самаўпэўнена (замест верша "Зайграй, зайграй, хлопча ма́лы" прапануе ўключыць у школьныя праграмы свае багрымапагромныя даследаванні) і па-дылетанцку (не працуе ў архівах, а збірае вяршкі па чужых публікацыях). Гэтае ваяўнічае, самаўпэўненае і дылетанцкае змаганне і прывяло да сумных вынікаў. Начытаўшыся артыкулаў баранавіцкага краязнаўца, хтосьці невядомы ўжо двойчы разбураў надмагільны помнік Багрыму. Давялося павесіць ахоўную шыльдачку.

Выдаўшы свае опусы асобнай кніжкай, М.Маліноўскі прыслаў яе мне. Прачытаўшы яе, я зразумеў, што аўтар не проста спрабуе спіхнуць Багрыма з пастамента (нешта падобнае позна ці рана здараецца ледзь не з кожным класікам), а зацята, з нейкім малазразумелым імпэтам хоча прыбіць яго да ганебнага слупа. Прычым абсалютна бяздоказна. З тае кніжкі я нечакана даведаўся, што Паўлюк Багрым быў платным правакатарам на службе Расійскай імперыі. Што пісаў па-польску (гэта сказана пра беларускую лацінку, якую сёння нават у метро можна сустрэць). Што Багрымаў, аказваецца, было двое (няўжо і ў XIX стагоддзі ўжо ўмелі кланіраваць людзей?). Што крошынскі ксёндз Караль Жураўскі, які пасля ўз'яднання Беларусі ў 1939 годзе прайшоў праз савецкую турму і ўратаваў бясцэнныя дакументы, датычныя Багрыма, – "злодзей і распуснік".

Аслеплены падманным святлом герастратавай славы, М.Маліноўскі намагаецца адабраць у Паўлюка Багрыма і знакамітую жырандолю. Маўляў, не вучыўся крошынскі ўмелец кавальскаму майстэрству, дык як мог тых жаўрукоў выкаваць?.. Што тут можна параіць сумніўцу-глумліўцу? Прыставіць лесвіцу да жырандолі, узняцца і прачытаць "аўтограф" каваля: "Павел Багрым выканаў у Крашыне над Шчарай у 1881 годзе".

Усіх ранейшых багрымазнаўцаў Маліноўскі безапеляцыйна залічвае ў "ілжэдаследчыкі" і вывяргае на іх галовы перуны і маланкі свайго праведнага гневу.

Пры выпадковай сустрэчы я выказаў аўтару ўсё, што думаю пра яго антыбагрымаўскі опус. Параіў пачытаць даследаванні літаратуразнаўцаў Міколы Хаўстовіча ды Ігара Запрудскага, якія свае асцярожныя і карэктныя сумненні падмацоўваюць усё ж пэўнай аргументацыяй.

З таго часу баранавіцкі краязнавец стаў праяўляць да маёй сціплай асобы самую пільную ўвагу. Скажам, давялося мне неяк паўдзельнічаць у перадачы на Радыё Свабода, дзе абмяркоўваўся феномен Багрыма. І Маліноўскі ва ўласцівым яму ваяўнічым стылі тут жа напісаў ліст-данос у КДБ (копію чамусьці прыслаў мне).

Цытую з прэамбулы да таго ліста: "У радыёэфіры вы зноўку паднялі пытанне аб правакатары і сфабрыкаваным польскімі масонамі і нацыянал-шавіністамі русафобе-паэце Паўле Багрыме. З якой мэтай вы гэта робіце, хто з калабарантаў штурхае вас на гэта?" І гэтак далей – і пра Юдавы срэбнікі, і пра здраду радзіме…

Прачытаў я той ліст, штэмпеляваны адмысловай пячаткай з адрасам і тэлефонам, і стала мне неяк непамысна і гідка, быццам адкрыў бляшанку з пратэрмінаванымі кансервамі. Выдавалі нам такія ў савецкім войску, ледзь яшчэ не з ленд-лізаўскіх паставак. І падумалася: спазніўся чалавек нарадзіцца, у 1930-я гады зрабіў бы на даносах кар'еру. А што яму свеціць сёння? Нешта ж свеціць…

Сябры раяць мне не пераймацца тымі пісаннямі пра Багрыма і даносамі ў КДБ. Маўляў, калі чалавек подлы – не дапамогуць і модлы. Але я добра памятаю, як наш найсумленнейшы даследчык Генадзь Кісялёў незадоўга да смерці быў вымушаны праводзіць навуковую экспертызу псеўданавуковых тэкстаў М.Маліноўскага. Бо Мінадукацыі ўжо збіралася выкінуць "міфічнага паэта Багрыма" са школьных падручнікаў. Тады перамаглі аўтарытэт і высокі прафесіяналізм Кісялёва. Але пытанне з парадку дня канчаткова не знята да гэтай пары.

А пакуль пытанне не знята, то і ахоўная шыльдачка на помніку не будзе лішняй. І яна на месцы – у чым я меў магчымасць пераканацца, наведаўшыся на Радаўніцу на Крошынскія могілкі.

СІТУАЦЫЯ

# Юрыя Авяр'янава пакуль не экстрадзіравалі

*Тры месяцы прайшло з таго часу, як беларускага бізнесмена затрымалі ў Германіі.*

Так, яшчэ ў кастрычніку мінулага года з Мінска адправілі ў Берлін пакет дакументаў на выдачу Авяр'янава. 18 студзеня беларуса затрымалі нямецкія праваахоўнікі, а 21-га адзін з раённых судоў Берліна прыняў рашэнне аб узяцці бізнесмена пад варту з мэтай яго выдачы на радзіму.

Юрый Авяр'янаў быў аб'яўлены ў міжнародны вышук у кастрычніку 2017 года. У Беларусі яго падазраюць "ва ўхіленні ад выплаты сум падаткаў, збораў шляхам утойвання, наўмыснага заніжэння падатковай базы альбо шляхам ухілення ад прадстаўлення падатковай дэкларацыі або ўнясення ў яе заведама лжывых звестак" (арт.243 КК). У залежнасці ад нанесенай шкоды (у буйным ці асабліва буйным памеры) бізнесмену пагражае штраф, арышт на тэрмін да 6 месяцаў, абмежаванне волі – ад 3 да 5 гадоў ці пазбаўленне волі на тэрмін ад 3 да 7 гадоў, з канфіскацыяй маёмасці ці без канфіскацыі, з пазбаўленнем права займаць пэўныя пасады і займацца пэўнай дзейнасцю.

Як раней паведамлялася, Авяр'янаў – адзін з першых доларавых мільянераў у Беларусі. Ён адкрываў буйныя рынкі і забаўляльныя ўстановы ў Мінску, у тым ліку рэчавы рынак на стадыёне "Дынама", аўтарынак. Бізнесмен заснаваў першы прыватны парк атракцыёнаў "Дрымленд". Аднак некалькі гадоў таму ў яго пачаліся праблемы з крэдыторамі, і ён з'ехаў за мяжу. Вядома, што ў Германіі Авяр'янаў мае від на жыхарства, які атрымаў яшчэ раней.

– Я ўжо неаднаразова казаў, што працэс экстрадыцыі – гэта не хуткая справа, – распавёў "Народнай Волі" афіцыйны прадстаўнік Генеральнай пракуратуры **Дзмітрый БРЫЛЁЎ**. – Такая крымінальна-прававая працэдура можа расцягнуцца больш як на год, а прайшло ўсяго тры месяцы з моманту затрымання Авяр'янава ў Берліне. Пакуль ён знаходзіцца там, а працэс экстрадыцыі працягваецца. Германія – замежная краіна, і на нешта паўплываць мы проста не можам.

**– Можа быць, нямецкі бок рабіў нейкія дадатковыя запыты па гэтай справе?**

– У Берлін быў адпраўлены пакет дакументаў на выдачу Авяр'янава, і зараз ідзе звычайная праца двух ведамстваў, як гэта прадугледжана міжнароднымі нормамі. Дакументам даецца прававая ацэнка, суд у Германіі будзе прымаць рашэнне наконт таго, экстрадзіраваць бізнесмена ў Беларусь альбо адмовіць беларускаму боку. Натуральна, ніхто не ведае, у якія тэрміны гэта будзе зроблена. Таму замежныя калегі працуюць, а нам застаецца толькі чакаць, якім будзе вынік…

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

НУ І НУ!

# Дагуляўся…



Цяпер у Аляксандра Сітніцы не такі кабінет.

Вы можаце ўявіць, каб у савецкія часы з'явілася інфармацыя, што нейкага старшыню райвыканкама ці першага сакратара райкама партыі звольнілі "за прагулы"? А вось днямі Гомельскі аблвыканкам паведаміў аб звальненні кіраўніка Гомельскага райвыканкама Аляксандра Сітніцы менавіта з такой фармулёўкай.

У той жа час па СМІ гуляе інфармацыя, што чыноўнік спачатку пайшоў на бальнічны, а потым з'ехаў у Расію. Пасля гэтага ён быў абвешчаны ў вышук. У выніку, як пацвердзіў міністр унутраных спраў сп.Шуневіч, зараз ён знаходзіцца ў беларускім ізалятары.

Не, нешта незразумелае творыцца з вертыкальшчыкамі…

**Зінаіда КРУПЧАНКА.**

